ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 101(5283)
Аўторак,
4 верасня
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
80 руб.

## Пад дэвізам "Я — мінчанін"

**прайшоў першы ўрок 1 верасня ва ўсіх сярэдніх школах Мінска.**

НА ЗДЫМКАХ:

1. Урок у пятым класе сярэдняй школы № 181 праводзіць настаўнік гісторыі Алег Жук.
2. Цікавым і змястоўным атрымаўся расказ аб Мінску вучаніцы пятага класа сярэдняй школы № 181 Тані Івановай.

Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА, БЕЛТА.

Наша інтэрв'ю

## "Спадзяёмся на падтрымку дэпутатаў"

Тамара ЧОБАТАВА

***Напярэдадні новага навучальнага года на пытанні нашага карэспандэнта адказала лідэр галіновага прафсаюза Тамара Чобатава.***

**— Тамара Іосіфаўна, якія пачуцці выклікае ў Вас як старшыні прафесійнага настаўніцкага саюза пачатак навучальнага года?**

— Закончыліся штогадовыя летнія клопаты па падрыхтоўцы ўстаноў адукацыі да новага навучальнага года, і першага верасня ў нашай свядомасці ўспрымаецца як свята: з кветкамі, музыкай, усмешкамі. Гэта заканамерна. Школа павінна быць аптымістычнай. Нельга эфектыўна працаваць на будучыню, сагнуўшыся пад грузам сённяшніх праблем. Таму ў складанай гаме пачуццяў, якія я адчуваю першага верасня, значнае месца займаюць радаснае хваляванне і гордасць настаўніка з 25-гадовым стажам практычнай работы за сваю прафесію.

Але праўда і тое, што маё прафесійнае бачанне галіны і яе праблем дадае мінорных нот у агульны святочны настрой.

Па-першае, летні перыяд нам прынёс нямала клопату: затрымкі выплаты зарплаты і адпускных работнікам галіны фактычна не спыняліся да 6 жніўня. Неаднаразова давялося звяртацца па гэтым пытанні ва ўрад, патрабаваць у мясцовых органаў улады выканання працоўнага заканадаўства, своечасовай выдачы адпускных.

Па-другое, па-ранейшаму востра застаецца праблема належнага ўзроўню аплаты працы работнікаў галіны. Хачу адзначыць, што наша сустрэча з прэм'ер-міністрам Уладзімірам Ярмошыным, якая адбылася ў снежні мінулага года, стала магчымай толькі дзякуючы магутнай падтрымцы нашых законных патрабаванняў настаўніцтвам рэспублікі: пад заявай за належную аплату працы паставілі свае подпісы звыш 180 тысяч работнікаў галіны. І меры па сацыяльнай падтрымцы бюджэтнікаў, уведзеныя з 1 сакавіка, а потым з 1 ліпеня б.г., далі пэўны станоўчы вынік: сярэдняя заработная плата ў нашай галіне вырасла ў чэрвені да 102,4 тыс. руб. і ў ліпені да 110,8 тыс. руб., што складае адпаведна 70 і 68,7 працэнта ад сярэдняга ўзроўню ў прамысловасці. Тым самым мы наблізіліся да паказчыка, які быў у нас толькі ў 1996 годзе: 73,8 працэнта. (Па выніках 2000 года ўзровень зарплаты ў галіне апусціўся да 60,9 працэнта ў параўнанні з узроўнем яе ў прамысловасці.)

Вельмі хочацца спадзявацца, што ў гэты год, год II з'езда настаўнікаў, тэндэнцыя паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту работнікаў сістэмы, павышэння ўзроўню аплаты працы прыме ўстойлівы характар.

**— Тамара Іосіфаўна, як вядома, сёлета на вясновай сесіі дэпутаты Нацыянальнага сходу ўхвалілі ў першым чытанні праект змяненняў і дапаўненняў у Закон аб адукацыі. Як Вы ставіцеся да гэтага дакумента?**

— Пераацаніць значэнне гэтага закона для галіны, грамадства ў цэлым немагчыма. На працягу апошніх чатырох гадоў мы прыкладваем шмат намаганняў для таго, каб закон адкрываў не толькі новыя гарызонты для развіцця сістэмы, але і быў сацыяльна накіраваным, абараняў тых, хто працуе ў галіне.

На жаль, у прынятым у першым чытанні законапраекце сацыяльныя гарантыі развіцця сістэмы і павышэння дабрабыту яе работнікаў не толькі не замацаваны, але проста аказаліся выпусташанымі, нават у параўнанні з дзеючым законам.

**— Тамара Іосіфаўна, не маглі б Вы назваць, якія гарантыі зніклі?**

— Перш за ўсё, знік нарматыў гарантаванага фінансавання галіны, хаця ў дзеючым законе ён дакладна вызначаны — 10 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту. Зразумела, што справы ў эканоміцы сёння няважныя, але нельга ж закон "падпраўляць" пад існуючую сітуацыю.

Узровень фінансавання галіны сёння не дасягае нават 6 працэнтаў ад ВУП: на 2001 г. запланавана 5,57 працэнта. А за гэтым — павелічэнне крытычнай масы састарэння школьных будынкаў, дапатопная аснашчанасць вучэбнага працэсу, у той час як увесь свет шырока ўкараняе сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі.

Акрамя таго, зніклі палажэнні аб праве настаўнікаў на атрыманне льготных крэдытаў на жыллё, аб замацаванні льгот на асноўны падоўжаны водпуск, на бясплатнае карыстанне камунальнымі паслугамі на сяле.

Але самае галоўнае, дзяржава адмаўляе педагагічным работнікам у праве на гарантаваны ўзровень аплаты працы. Я прыводзіла звесткі па зарплаце ў галіне. Каб была ўпэўненасць у заўтрашнім дні, у законе неабходна замацаваць палажэнне аб тым, што педагог павінен атрымліваць заработную плату ў памеры не ніжэй за сярэдні ўзровень заробку ў прамысловасці, а прафесарска-выкладчыцкі састаў, як мінімум, у 1,5 раза вышэй. Гэта норма дзеючага закона. Існуе яна і ў расійскім заканадаўстве.

**— Ці ёсць спадзяванні на тое, што дэпутаты пачуюць голас розуму і не дапусцяць прыняцця закона, які пагаршае становішча работнікаў сістэмы адукацыі?**

— Ёсць. Калі гэты законапраект да гэтага часу не прыняты, то гэта дзякуючы нашай настойлівай рабоце з папярэднім саставам Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе. Знаходзім мы разуменне і ў новага саставу камісіі, яе старшыні І.В.Катлярова. Мы знаёмы з праектам, падрыхтаваным новай камісіяй. Гэта дакумент, які аднаўляе многія сацыяльныя льготы настаўнікаў. І тут, як заўсёды, нам патрэбна падтрымка не толькі педагагічнай, але і ўсёй грамадскасці. Будучыня нашых дзяцей, нашага грамадства шмат у чым залежыць ад працы настаўніка. Таму мы спадзяемся, што дэпутаты з разуменнем і адказнасцю пастаяцца да прапаноў, якія мы распрацавалі сумесна з Міністэрствам адукацыі.

**— Дарэчы, а як увогуле складваюцца адносіны генеральнага штаба галіны — міністэрства — і галіновага прафсаюза?**

— Стыль узаемадзеяння ЦК прафсаюза з Міністэрствам адукацыі, нашых выбарных органаў на месцах з органамі кіравання характарызуецца ўзаемнай павагай, узаемаразуменнем і канструктывізмам. У гэтым годзе ў студзені мы падпісалі новае галіновае пагадненне на тры гады, падпісаны ўсе абласныя і Мінскае гарадское пагадненне, завершана кампанія па заключэнні раённых, гарадскіх пагадненняў і калектыўных дагавораў. За гэтай знешняй структурай сацыяльнага партнёрства стаіць сур'ёзная канкрэтная праца, якая дазваляе развіваць супрацоўніцтва ў галіне, ствараць найбольш спрыяльныя ўмовы працы.

Дагаворы і пагадненні, якія заключаюцца сёння, аказваюць істотны ўплыў на пытанні аплаты працы, матэрыяльнага стымулявання, рэгулявання працоўных адносін у калектывах. Гэта самая дзейсная агітацыя на карысць прафсаюза. Па выніках 2000 года ў ходзе нашых праверак людзям выплацілі каля 65 млн. рублёў, 23 чалавекі вярнуліся на свае месцы працы па патрабаванні прафсаюза. За першае паўгоддзе 2001 г. толькі да нас, у ЦК, за дапамогай звярнуліся каля 1000 членаў прафсаюза. Гэта радуе, значыць нам давяраюць.

Хаця ў цэлым нам хацелася б бачыць больш баявітасці ў выбарных прафсаюзных органаў. Але нельга аспрэчыць і той факт, што павялічваецца колькасць прафкамаў, якія ўмела і прынцыпова адстойваюць інтарэсы работнікаў, абараняюць настаўніка ад самавольства.

**— Вы маеце на ўвазе далучэнне настаўнікаў да мерапрыемстваў рознага кшталту, якія не ўваходзяць у іх функцыянальныя абавязкі?**

— І гэта таксама. Асабліва такіх нагрузак шмат у сельскай мясцовасці: сена, буракі, праполка і г.д. На месцах нярэдка прымаюцца рашэнні, якія парушаюць правы работнікаў. Напрыклад, абавязковы ўдзел у сельскагаспадарчых работах або пералічэнне на патрэбы гаспадарак часткі заробку. У сельскай гаспадарцы становішча, безумоўна, вельмі складанае, але не будзе добрага выніку, калі ў бедняка адбяруць грошы на карысць жабрака!

**— З якімі надзеямі ўступае прафсаюз у новы навучальны год?**

— Безумоўна, пакуль барометр сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай рэспублікі не накіруецца да адзнакі "ясна", пра радыкальныя змены існуючага становішча ў адукацыі і матэрыяльным дабрабыце яго работнікаў гаворкі і быць не можа. Таму мы жывём тымі ж спадзяваннямі на перамены да лепшага, як і ўсё наша грамадства.

Разам з тым, напярэдадні II з'езда настаўнікаў хачу выказаць пажаданне, каб разам з адукацыйна-выхаваўчымі праблемамі былі ўзняты праблемы дзяржаўнага забеспячэння рэформ, што праводзяцца ў галіне, сацыяльнага статусу і матэрыяльнага дабрабыту работнікаў сістэмы адукацыі. А наш галіновы прафсаюз, яго прафсаюзны актыў паслядоўна і прынцыпова будуць адстойваць інтарэсы сваіх членаў.

Нарады

## І вучыць, і выхоўваць

29 жніўня ў Мінску, у Палацы рэспублікі, прайшла гарадская нарада настаўнікаў, у якой узялі ўдзел каля шасцісот прадстаўнікоў сталічнай адукацыі, пачынаючы з дашкольнага выхавання і заканчваючы вышэйшай адукацыяй.

На нарадзе падзяліліся думкамі аб стане агульнай сярэдняй адукацыі міністр В.І.Стражаў, мэр Мінска М.Я.Паўлаў, рэктар БДПУ імя М.Танка Л.Н.Ціханаў. Васіль Іванавіч Стражаў у сваім выступленні падкрэсліў, што сістэма адукацыі ў Мінску заўсёды была моцнай. Гэта пацвярджаецца фактамі. Каманда вучняў школ сталіцы другі год запар стала пераможцай рэспубліканскіх алімпіяд (заваяваны 80 дыпломаў, 21 пахвальны водзыў па пятнаццаці вучэбных прадметах). Выдатных поспехаў дамагліся юныя мінчане на міжнародных алімпіядах, турнірах, конкурсах (на міжнароднай алімпіядзе па матэматыцы вучань сярэдняй школы № 41 Сяргей Маркоўскі быў узнагароджаны залатым медалём, а вучань сярэдняй школы № 187 Глеб Бардоўскі на міжнароднай канферэнцыі школьнікаў па інфарматыцы заваяваў таксама залаты медаль). Дарэчы, адной з задач, якія паставіў міністр перад сталічнай адукацыяй, з'яўляецца належная арганізацыя інфарматыкі як аднаго з асноўных прадметаў новага стагоддзя.

У сваім дакладзе начальнік гарадскога ўпраўлення адукацыі М.С.Ціцянкоў значную ўвагу ўдзяліў пытанням фарміравання асобы грамадзяніна. Выхаванне грамадзянскіх патрыятычных пачуццяў заўсёды было ў цэнтры ўвагі школ Мінска. Узрасла колькасць навучальных устаноў, якія маюць уласныя сучасныя аўтарскія сістэмы выхавання (гімназіі №№ 61, 214, 2, 130, 13; сярэднія школы №№ 56, 102, 170 ...). Асаблівасцю такіх сістэм выхавання з'яўляецца ажыццяўленне сацыялізацыі асобы пад уздзеяннем акаляючага прыроднага асяроддзя, дзяржавы праз грамадскія інстытуты, эканоміку, палітыку, СМІ, сям'ю.

Больш як 72 тысячы дзяцей Мінска займаюцца ў гуртках, клубах, секцыях розных напрамкаў. Ва ўсіх раёнах горада колькасць гурткоў і спартыўных секцый узрасла больш чым на 23 працэнты (з 1997 года), а колькасць вучняў у іх — на 30 працэнтаў. Узрастае колькасць дзяцей, якія займаюцца ў розных творчых аб'яднаннях пазашкольных устаноў.

Дастаткова ўвагі ўдзяляецца аздараўленню юных мінчан. Пры садзейнічанні ўпраўлення па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні ў час летніх канікул удалося арганізаваць адпачынак больш чым для сямідзесяці тысяч вучняў школ і навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў.

Зразумела, што выхаваўчы працэс немагчыма ўявіць без дашкольнага выхавання. На сённяшні дзень сетка дашкольных устаноў горада дыферэнцыявана. У яе ўваходзяць 217 дзіцячых садкоў агульнаадукацыйнага напрамку, Цэнтр развіцця дзіцяці, 10 спецыяльных дашкольных устаноў, дзве школы-дзіцячыя садкі, 10 санаторных, 2 кругласутачныя і 154 дашкольныя ўстановы кампенсацыйнага і камбінаванага прызначэння. Працягвае развівацца сетка дзіцячых садкоў з дадатковымі адукацыйнымі паслугамі як платнага, так і бясплатнага характару. Але ёсць і праблемы. Адна з іх, прычым асноўная — недастатковая колькасць кваліфікаваных кадраў: выхавацеляў, медыцынскіх сясцёр і інш.

Паміж працэсам выхавання і навучання заўсёды існавала непарыўная сувязь. Цяжка прыходзіцца настаўнікам: яны павінны і вучыць і выхоўваць адначасова. На нарадзе М.С.Ціцянковым былі пералічаны прозвішчы настаўнікаў, якія сапраўды з'яўляюцца залатым фондам сістэмы адукацыі Мінска: пераможца гарадскога конкурсу "Настаўнік года-2001" Галіна Пятроўна Чумак, настаўніца англійскай мовы гімназіі № 10 Елізавета Мікалаеўна Давыдзік і інш.

Прыемна тое, што кіраўніцтва горада прызнае значнасць працы педагогаў. Упершыню ў гісторыі сталіцы ў мінулым навучальным годзе было прынята рашэнне аб заснаванні ста прэмій і ста грантаў Мінгарвыканкама лепшым прадстаўнікам педагагічнай прафесіі. А ў гэтым годзе па рашэнні Мінгарвыканкама ў мэтах стымуляцыі працы настаўніка будзе ажыццяўляцца матэрыяльная падтрымка класным кіраўнікам у памеры чатырох мінімальных заработных плат у месяц, іншым настаўнікам — тры мінімальныя заработныя платы ў месяц.

Адным з паказчыкаў якасці агульнай сярэдняй адукацыі з'яўляецца паступленне выпускнікоў сярэдніх школ у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Сёлета больш як 54 працэнты выпускнікоў школ і навучальных устаноў новага тыпу сталі студэнтамі. Лепшых вынікаў у гэтым дамагліся вучні школ Цэнтральнага, Першамайскага і Савецкага раёнаў сталіцы. У мінулым навучальным годзе 1405 выпускнікоў закончылі школу з медалём. Гэта менш, чым у пазамінулым, што тлумачыцца больш жорсткімі патрабаваннямі да іх.

У школах рэспублікі ідзе рэформа, якая патрабуе абавязковага ўвядзення ў навучальны працэс новых тэхналогій, эксперыментаў. У 2000-2001 навучальным годзе ў сталіцы функцыянавалі 33 эксперыментальныя пляцоўкі, у шасцідзесяці чатырох установах вялася праца па ўкараненні новых адукацыйных тэхналогій. Асабліва вызначыліся школы і гімназіі Першамайскага, Фрунзенскага, Кастрычніцкага і Маскоўскага раёнаў. Адным з элементаў рэформы агульнаадукацыйнай школы з'яўляецца пераход на дзесяцібальную сістэму ацэнкі ведаў вучняў. Канешне, гэта значна пашырае магчымасці ацэнкі ведаў вучняў, але неабходна весці працу ў галіне падрыхтоўкі да ўспрыняцця новай з'явы як вучняў, так і настаўнікаў, якім яшчэ цяжка яе ўспрымаць як норму.

Дыферэнцыяцыя навучання — эфектыўны шлях развіцця здольнасцей вучняў. У мінулым навучальным годзе ў Мінску працавалі 19 гімназій, два ліцэі, два вучэбныя комплексы гімназія-каледж, больш як 10 школ з рознымі ўхіламі і профільнымі класамі, класамі з паглыбленым вывучэннем прадметаў. У трыццаць адной школе былі адкрыты ліцэйскія класы. Упершыню быў праведзены конкурсны адбор у гімназіі выпускнікоў пачатковай школы. Самымі папулярнымі сярод вучняў сталі гімназіі №№ 1, 5, 10, 12, 13. Практыка дыферэнцыяцыі навучання будзе працягвацца і далей.

Апошнім часам больш упэўнена пачалі заяўляць пра сябе недзяржаўныя навучальныя ўстановы. Сёння ў Мінску функцыянуе 10 гімназій, адна недзяржаўная навучальная ўстанова — школа-дзіцячы сад, у якіх вучыцца больш за тысячу сто дзяцей. У будучым плануецца аб'яднаць іх з дзяржаўнымі і стварыць агульную сістэму адукацыі.

Нарада не абышла сваёй увагай і праблему кадраў. На сённяшні дзень у школах сталіцы налічваецца 300 вакансій (у мінулым годзе іх было 1200). Па-ранейшаму не хапае настаўнікаў замежнай мовы.

Першага верасня свае дзверы адчынілі дзве новыя школы — сярэдняя школа № 222 у квартале Лошыца-2 і сярэдняя школа № 223 у квартале Ваупшасава. Павялічылася і колькасць гімназій: сярэднія школы №№ 192, 56 і 25 пераўтвораны ў гімназіі. Усе яны з радасцю прынялі сваіх вучняў.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

## З Днём нараджэння, школа!

На ўскрайку Мінска, сярод новабудоўляў, быццам намаляваная, стаіць школа. Зблізку можна ўпэўніцца, што школа — самая сапраўдная, проста вельмі бліскучая, і выглядае па-святочнаму. І вучні, і бацькі, і настаўнікі каля яе — таксама сапраўдныя, а кветкі — жывыя...

Пачатак навучання для дзяцей Партызанскага раёна сталіцы быў адзначаны яшчэ адным святам: на вуліцы Солтыса адкрылася сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 223.

Прэзентацыя "імянінніцы" адбылася 31 жніўня. Напачатку ў школе будуць займацца 400 хлопчыкаў і дзяўчынак з пятага па дзесяты класы. Дзеці перайшлі з 57-й, 22-й і 72-й школ, і цяпер ім не трэба будзе дабірацца на вучобу да станцыі метро "Аўтазаводская" ці "Трактарны завод".

Школе нададзены статус установы з фізкультурна-аздараўленчым ухілам. На жаль, яшчэ не гатовы стадыён і спартыўныя пляцоўкі, якія павінны забяспечваць вучэбны працэс. Будаўніцтва гэтых аб'ектаў плануецца завяршыць на працягу навучальнага года. Да 1 студзеня будзе гатовы апошні блок, прызначаны для пачатковых класаў. У астатнім школа падрыхтавана добра, як запэўніў намеснік главы адміністрацыі Партызанскага раёна Міхаіл Уладзіміравіч Аўсіевіч. Належным чынам выглядае абсталяванне, закуплена мэбля, гатовы харчблок, школа ўкамплектавана педагагічнымі кадрамі.

Павіншаваць вучняў і настаўнікаў прыйшлі ганаровыя госці, кожны з якіх унёс свой уклад у будаўніцтва школы. Гэта: намеснік міністра адукацыі Генадзь Дзям'янавіч Дылян, начальнік упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама Міхаіл Сяргеевіч Ціцянкоў, галава Адміністрацыі Партызанскага раёна Станіслаў Іванавіч Буко, начальнік будаўнічага ўпраўлення № 5 Мікалай Мікалаевіч Астрэйка і многія іншыя. Госці ўручылі каштоўныя падарункі, сярод якіх — і камп'ютэр з магчымасцю карыстацца Інтэрнэтам. Ганаровае права разрэзаць сімвалічную чырвоную стужку дасталося дырэктару школы Генадзю Альбертавічу Бяляўскаму.

Прагучаў першы ва ўсіх сэнсах званок — і вучні гамanлівым гуртам хлынулі ў школьныя дзверы і разышліся па чыстых і ўтульных кабінетах. Хочацца пажадаць дзятве вучыцца на "дзесяць", а настаўнікам — захаваць натхненне і адчуваць свята ў час будняў.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

## Паважаныя чытачы!

***Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні на чацвёрты квартал 2001 года.***

***Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку".***

***Падпісны кошт на квартал для індывідуальных падпісчыкаў на месяц — 950 рублёў, на квартал — 2850 рублёў.***

***Па ведамаснай падпісцы на месяц — 2800 рублёў, на квартал — 8400 рублёў.***

Што зроблена

# Атрымалі належную ацэнку

***Прафесійна-тэхнічным вучылішчам № 121 г.Барысава да пачатку навучальнага года работа была зроблена проста тытанічная. Тут папрацавалі не толькі калектывы педагогаў і навучэнцаў ПТВ, але і цудоўныя шэфы — работнікі базавага прадпрыемства, завода "Аўтагідраўзмацняльнік", а таксама прадстаўнікі іншых прадпрыемстваў.***

Затое і вынікі відаць: прыведзена ў ідэальны парадак тэрыторыя вакол вучылішча, капітальна адрамантаваны спартзала, сталоўка, зроблены касметычны рамонт рамонтна-механічных майстэрняў, ажыццёўлена прафілактычнае абслугоўванне металарэжучых станкоў. Утульна і прыгожа ў інтэрнаце. І гэта, напэўна, асабліва важна: няхай падлеткі-навічкі не так моцна будуць адчуваць адарванасць ад роднага дома. Усе намаганні ацэнены прадстаўнікамі ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама на "пяць".

Сёлета пасля заканчэння школы ў ПТВ № 121 прыйшлі 250 падлеткаў. Упершыню прыступяць да заняткаў у вучылішчы яшчэ 130 былых вучняў дзевятых класаў. 85 працэнтаў навічкоў — выхаванцы Барысаўшчыны, астатнія - з розных рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Расіі і іншых краін СНД.

У вучылішчы можна атрымаць адукацыю па наступных спецыяльнасцях: слесар па рамонце прамысловага абсталявання, слесар механазборачных работ, наладчык станкоў з праграмным кіраваннем, электраманцёр, радыёмантажнік, слесар КІП і аўтаматыкі, кантралёр-касір, прадавец, сакратар-машыністка.

З кожнай групай першакурснікаў пагутарыў дырэктар ПТВ Аляксандр Паўлавіч Бародка, які так сфармуляваў сваю канцэпцыю:

— Мне не ўсё роўна, хто да нас прыйшоў. Хвалюе, якімі спецыялістамі і людзьмі стануць гэтыя, па сутнасці, яшчэ дзеці. Вельмі шмат залежыць ад нас, педагогаў, але без дапамогі бацькоў усё ж наўрад ці будзе добры вынік. З першых жа дзён мы прывучаем нашых выхаванцаў да сур'ёзнага стаўлення да свайго лёсу, будучай прафесіі.

З 29 па 31 жніўня ў вучылішчы прайшлі бацькоўскія сходы. 1 верасня адбылося свята, на якое прыйшлі не толькі бацькі навучэнцаў, але і прадстаўнікі кіраўніцтва прадпрыемстваў горада, ветэраны гэтай навучальнай установы, выпускнікі. Пасля ўрачыстага рытуалу юнакі і дзяўчаты разам з майстрамі вытворчага навучання разышліся па аўдыторыях, лабараторыях, майстэрнях, дзе ветэраны і выпускнікі вучылішча, якія дасягнулі ў жыцці пэўных поспехаў, расказалі навічкам пра іх будучую прафесію, пагаварылі проста пра жыццё і пра тое, як знайсці ў ім сваё месца.

*— Мы пастараемся вырасціць з гэтых хлапчукоў і дзяўчынак добрых прафесіяналаў. У нас выдатны калектыў. Але асабліва адзначу працу маіх намеснікаў Е.В.Афонскай і А.Л.Камар, майстра вытворчага навучання Л.Ю.Канічэнкавай, псіхолага Л.А.Нячаевай, якая, дарэчы, днямі адзначыла 25-гадовы юбілей сваёй працы ў нашым вучылішчы, — падкрэсліў А.П.Бародка, сам былы выпускнік ПТВ № 121 і педагог з 22-гадовым стажам.*

**Алена РАМАНАВА.**
Барысаў.



Маладажонамі пачынаюць вучобу ў гэтым годзе студэнтка IV курса дэфекталагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка Вольга Качурка и пяцікурснік Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта, будучы інжынер-механік Віталій Грыцук.

НА ЗДЫМКУ: на пачатку сумеснага жыцця маладажоны па традыцыі прыходзяць да святынь Брэсцкай крэпасці-героя.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Погляд

# Філолаг Васіль замест экскаватара

***Як сведчаць сацыялагічныя даследаванні апошніх гадоў, прыблізна паўмільёна суайчыннікаў нічога не мелі супраць таго, каб з'ехаць з Беларусі — хто ў пастаянную эміграцыю, а хто на толькі часовыя падзаробкі. Як сведчылі дадзеныя, змешчаныя летась у "Аргументах і фактах", каля 40 працэнтаў тых, каго апыталі сацыёлагі, выказалі жаданне адправіцца ў Злучаныя Штаты Амерыкі, Канаду ці якую-небудзь краіну Заходняй Еўропы.***

Камусьці такія дадзеныя могуць падацца крамольнымі. Маўляў, хіба гэта добра, калі амаль кожны дваццаты беларус хацеў бы з'ехаць за мяжу?! Вядома, нічога добрага ў гэтым няма. Для краін з крызіснай эканомікай такая тэндэнцыя — з'ява натуральная. Жаданнем эміграваць туды, дзе лепей, ахоплены мільёны людзей у дзясятках краін "трэцяга свету", да ліку якіх Беларусь не належыць. Дык зусім не варта разглядаць міграцыйныя працэсы ў нашай дзяржаве аднабакова. Трэба ўзважыць не толькі адмоўныя, але і станоўчыя іх вынікі. За дзесяцігоддзе, якое мінула з часу набыцця нашай дзяржавай незалежнасці, калі ўвесь свет для беларусаў стаўся больш адкрытым, а межы больш празрыстымі, амаль кожны падлетак даведаўся, што ён зусім не абавязаны заставацца ўсё жыццё там, дзе нарадзіўся, што можа паехаць, калі надарыцца магчымасць, туды, дзе лепей. Вось гэтае права на свабоднае перамяшчэнне, прынамсі, зафіксаванае ў Дэкларацыі правоў чалавека ААН, і пачалі скарыстоўваць з пачатку 1990-х дзясяткі тысяч нашых маладых суайчыннікаў. Яны склалі той клас "чаўнакоў", які, дзякуючы сваім чартарным паездкам у Польшчу і Турцыю, здзейсніў тое, што не магла зрабіць тагачасная прамысловасць — забяспечыў беларускае насельніцтва таннымі, хоць і невысокай якасці, таварамі паўсядзённага попыту.

На жаль, і дагэтуль айчынная эканоміка не можа забяспечыць усіх ахвотнікаў працай з высокім заробкам. Застаючыся на Бацькаўшчыне, маладыя людзі маглі б стацца каталізатарам грамадскіх узрушэнняў, бо разбуральная энергія заўсёды шукае выйсця. Адпускаючы ж маладых людзей на заробкі за мяжу, дзяржава эканоміць сродкі, якія давялося б выдаткоўваць на сацыяльнае забеспячэнне моладзі. Ды яшчэ і атрымлівае прыбытак, бо, вярнуўшыся з-за мяжы, маладыя людзі трацяць зробленыя грошы ў нашых крамах. А самым каштоўным з гэтай сітуацыі можа стацца тое, што маладыя людзі, пакаштаваўшы замежнага працоўнага хлеба, адкрыюць сваю "справу" на Беларусі і на далейшае стануць умацоўваць дабрабыт Бацькаўшчыны.

Зыходзячы менавіта з такіх разлікаў, дзейнічаў у 1960-1970-я гады польскі ўрад, адпускаючы тысячы суайчыннікаў на замежныя заробкі. Такая ж сітуацыя назіраецца сёння ў Турцыі, Філіпінах, Кітаі. Мажліва, такая аналогія падасца крыўднай для нашага гонару, усё ж Беларусь — дзяржава еўрапейская. Але суцяшацца няма чым — наша радзіма яшчэ не пазбавілася ўсіх заганаў крызіснага перыяду, мы знаходзімся не на фінішы, а толькі на чарговым вітку. І гэтаксама, як у іншых дзяржавах "другога" і "трэцяга свету", на Беларусі існуе адчуванне, хоць яно і не было афіцыйна агучана, што прымусова ўтрымліваць маладых людзей, якія хочуць прыкласці сваё розум і намаганні на чужыне, — справа небяспечная для ўнутрыпалітычнай стабільнасці. Лепей ужо, каб ехалі за мяжу, панабівалі сабе, умоўна кажучы, гузакі, дый пераканаліся, што нікому яны там не патрэбны. І той, хто мае галаву на плячах, хто шчыра любіць Бацькаўшчыну — вернецца. А пра тых, хто не вернецца, каму ўсё адно, дзе жыць, — пра такіх і шкадаваць не варта.

Дык, каб пераканацца, што за мяжой сваіх працоўных рук хапае, што, каб добра жыць, зусім не абавязкова выпраўляцца на чужыну, а лепей паляпшаць сваёй працай жыццё на Бацькаўшчыне, — ужо дзеля гэтага некаторым маладым людзям варта з'ездзіць у Еўропу.

***Сапраўды, карысць ад паездак за мяжу для маладых беларусаў у тым пакуль і заключаецца — пераканацца на ўласным вопыце, што нікому яны там непатрэбныя, і варта не ўцякаць на чужыну, а прыкладаць уласныя намаганні, каб і на Беларусі моладзь мела ўсе магчымасці для самарэалізацыі, творчай і фінансавай...***

Інакш кажучы, зрабіць тое, што зрабіў летась мой знаёмы філолаг Васіль Л-к (ён прасіў не ўзгадваць свайго сапраўднага прозвішча, каб пазбегнуць непрыемных роспытаў на працы), які падчас летніх вакацый паехаў у госці да свайго сябра Курта, студэнта Свабоднага універсітэта ў Заходнім Берліне. Яны пазнаёміліся, калі Курт, які вывучаў рускую мову і літаратуру, прыязджаў у Мінск праслухаць курс лекцый на філфаку БДУ.

У Васіля хапіла грошай на тое, каб даехаць да Берліна на аўтобусе. На дарогу назад і на пражыццё спадзяваўся зарабіць сваімі рукамі. Ён пасяліўся ў невялічкай кватэры Курта — нямецкія студэнты, звычайна, здымаюць жыллё і ўжо з першага курса сумяшчаюць вучобу з працай, бо атрымаць дзяржаўную стыпендыю ім досыць праблематычна.

Васіль меў так званую "гасцявую" візу, якая не дазваляла наймацца на працу. Такім чынам, яму належыла далучыцца да шматмільённай арміі нелегалаў. Курт, які прышукваў яму падпрацоўку ў германскай сталіцы, папярэдзіў, што нелегалы атрымліваюць утрая меней за звычайнага працоўнага, выконваючы тую ж працу. Між тым, якраз на таннай працы нелегалаў шмат у чым трымаецца інфраструктура высокаіндустрыялізаванай эканомікі ФРГ, як і любой іншай краіны Заходняй Еўропы. Нелегалы амаль задарма, па нямецкіх мерках, выконваюць так званыя "брудныя працы", напрыклад, прыбіральшчыкаў у туалетах або асенізатараў. Нямецкія беспрацоўныя не пагаджаюцца на такую працу, затое, дзякуючы танным заробкам нелегалаў, атрымліваюць неблагія ўрадавыя дапамогі.

— У часы другой сусветнай вайны нацысты прыганялі ў Германію мільёны славян і прымушалі працаваць задарма, — філасофстваваў Курт, калі па вечарах частаваў беларускага сябра півам. — А зараз, праз паўстагоддзе, славяне самі пранікаюць у Германію і таксама працуюць амаль задарма!..

За час летняга "адпачынку" Васіль пераканаўся, што па беларускіх мерках у Германіі можна няблага падзарабіць. Настрой псавала іншае — увесь час адчуваў сябе чалавекам "другога гатунку". Дый сапраўды: чаго яшчэ чакаць ад насельніцтва краіны, дзе, акрамя процьмы нелегалаў і бежанцаў, маюцца чатыры з паловай мільёны беспрацоўных?

За час "адпачынку" Васіль удосталь намахаўся рыдлёўкай на будоўлі. Ён і яшчэ чалавек дзесяць спякотным поўднем капалі катлаван, а побач стаяў экскаватар з вялізным каўшом і нішто не нагадвала, быццам машына некалі запрацуе. Падчас абедзеннага перапынку Васіль пацікавіўся ў прараба:

— Чаму вы не запусціце экскаватар? Ён жа за гадзіну выкапае такую ж яміну, якую мы адмахаем за дзень...

— Кожнаму з вас заплацяць па сотні марак, разам гэта складзе тысячу, — падлічыў прараб. — А праца экскаватара будзе каштаваць дзве тысячы марак. Дык, як бачыш, вашы рыдлёўкі ўдвая эканомнейшыя...

Пасля працоўнага дня, які складаў дзесяць гадзін, Васіль ледзь варушыўся ад стомы. Дык не асабліва пашкадаваў, калі яму сказалі, што працы на будоўлі для яго болей няма.

— Нічога дзіўоснага, — патлумачыў Курт. — Звычайная практыка нямецкіх работадаўцаў. Яны не могуць доўга ўтрымліваць нелегала. Даведаецца паліцыя — вялікі штраф плаціць трэба. Лепей для іх узяць нелегала на кароткі тэрмін, максімальна нагрузіць працай, а потым выкінуць. Несправядліва, вядома, затое эфектыўна...

Калі Васіль крыху адпачыў, Курт пералічыў яму, якія яшчэ спецыяльнасці могуць займець нелегалы ў Берліне. Аказалася, што Васіль мог бы яшчэ паслужыць кантралёрам у кінатэатры, ахоўнікам у казіно, лабарантам у хімічнай лабараторыі, маляром, рабочым на бензакалонцы, начным вартаўніком, на крайні выпадак "жывой скульптурай"...

— А што ўяўляе з сябе крайні выпадак? — спытаў Васіль.

Аказалася, "жывая скульптура" — даволі распаўсюджаны сярод нямецкіх студэнтаў сродак падзарабіць. Разам з Куртам Васіль падаўся на Аляксандр-Платц, у цэнтр Усходняга Берліна, намазалі твары белай фарбай, пазахуталіся ў белыя анучы ды знерухомелі, бы скульптуры. Праз чвэрць гадзіны стаяння з заплюшчанымі вачыма хлопцы мянялі постаці, каб цела не здранцвела. Прахожыя кідалі ім драбязу ў капялюш на асфальце, а турысты — фатаграфаваліся з імі ў абдымкі. За дзень такім чынам зарабілі марак па трыццаць кожны.

Калі Васіль збіраўся дадому, Курт спытаў сябра:

— Прыедзеш на падзаробкі наступным летам?

— Падумаю, — адказаў Васіль.

Падумаў і не паехаў.

— Чаму не паехаў? — спытаў я ў яго пры сустрэчы. — Што з таго, што адчуваў бы сябе там непаўнавартасным чалавекам? Затое там можна шмат працаваць, шмат зарабіць...

— Лепей тут шмат працаваць, лепей тут шмат зарабляць, — пакруціў галавой Васіль. — Толькі, калі так будзем рабіць, жыццё ў нас палепшыцца.

І мне тады падумалася, што Васіль мае рацыю. Сапраўды, карысць ад паездак за мяжу для маладых беларусаў у тым пакуль і заключаецца — пераканацца на ўласным вопыце, што нікому яны там непатрэбныя, і варта не ўцякаць на чужыну, а прыкладаць уласныя намаганні, каб і на Беларусі моладзь мела ўсе магчымасці для самарэалізацыі, творчай і фінансавай...

**Ягор КОНЕЎ,**
**выкладчык журфака БДУ.**

Правы дзіцяці

# Бацькі нясуць адказнасць

***У "Настаўніцкай газеце" № 93 ад 18 жніўня 2001 г. апублікаваны Рэкамендацыі Міністэрства адукацыі аб правядзенні мерапрыемстваў з вучнямі агульнаадукацыйных навучальных устаноў і іх бацькамі ў рамках "Тыдня ведаў" 1-7 верасня 2001 г. Міністэрства адукацыі лічыць неабходным правесці ў рамках "Тыдня ведаў" бацькоўскія сходы, сустрэчы педагагічнага калектыву з бацькамі, на якіх неабходна праінфармаваць бацькоў аб развіцці сістэмы адукацыі, аб мерах, якія прымаюцца органамі дзяржаўнага кіравання па забеспячэнні роўнага доступу да адукацыі, па рэалізацыі прынцыпу сацыяльнай справядлівасці, паляпшэнні вучэбна-выхаваўчага працэсу ў школах.***

Пры абмеркаванні Канцэпцыі "Адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь на рубяжы стагоддзяў", распрацаванай Міністэрствам адукацыі, дарэчы будзе расказаць бацькам і пра іх адказнасць за выхаванне дзяцей.

Бацькі і асобы, якія іх замяняюць, павінны ствараць неабходныя ўмовы для паўнацэннага развіцця, выхавання, адукацыі, умацавання здароўя дзіцяці і падрыхтоўкі яго да самастойнага жыцця ў сям'і і грамадстве (арт. 14, ч. 1 Закона РБ "Аб правах дзіцяці").

Бацькі і асобы, якія іх замяняюць, маюць права і абавязаны выхоўваць дзяцей, клапаціцца пра іх здароўе, развіццё і навучанне (арт. 32 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь).

Бацькі нясуць юрыдычную адказнасць за сваіх дзяцей да 18 гадоў. З моманту наступлення паўналецця, праходжання працэдуры эмансіпацыі (16 гадоў) такая адказнасць спыняецца. Дзіця становіцца поўнасцю самастойным. Але гэта не азначае, што бацькі павінны перастаць клапаціцца пра сваіх паўналетніх дзяцей. Маральны абавязак бацькоў — клапаціцца пра іх і ў далейшым.

У большасці выпадкаў бацькі выконваюць свае абавязкі на належным узроўні. Аднак нямала бацькоў ставяцца да гэтага нядобрасумленна. Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь устаноўлена дысцыплінарная, адміністрацыйная, грамадзянска-прававая і крымінальная адказнасць бацькоў.

Бацькі нясуць адказнасць за ўчыненне дзецьмі злачынстваў, адміністрацыйных парушэнняў, за іншыя антыграмадскія ўчынкі, за ўхіленне дзяцей ад вучобы, а таксама адказваюць па закону за зламыснае невыкананне сваіх абавязкаў па выхаванні і навучанні непаўналетніх дзяцей. Бацькам, якія ўхіляюцца ад выкanання сваіх абавязкаў па выхаванні і навучанні сваіх дзяцей, можа быць таксама вынесена афіцыйнае папярэджанне з боку органаў унутраных спраў або пракуратуры.

Віна бацькоў заключаецца ў дрэнным выхаванні дзяцей, адсутнасці за імі належнага кантролю, неправамерным выкарыстанні сваіх правоў у адносінах да дзяцей.

Бацькі нясуць грамадзянска-прававую (маёмасную) адказнасць за ўрон, нанесены дзецьмі маёмасці грамадзяніна або суб'екта гаспадарання незалежна ад формы ўласнасці.

За ўрон, нанесены дзецьмі ва ўзросце да 14 гадоў, таксама адказваюць бацькі. Дзеці ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў адказваюць за нанясенне ўрону самі на агульных асновах. Калі ж у іх няма маёмасці або заробку, дастатковага для пакрыцця нанесенага імі ўрону, то страта павінна быць кампенсавана бацькамі. Кожны з бацькоў адказвае за сваё дзіця ў той частцы ўрону, якая прыходзіцца на яго долю.

Бацькі або асобы, якія іх замяняюць, не нясуць адказнасці па абавязках эмансіпіраванага непаўналетняга, у тым ліку па абавязках, што ўзнікаюць з прычыны нанясення ўрону (арт. 26 ГК).

На бацькоў, пазбаўленых бацькоўскіх правоў, суд можа накласці адказнасць за ўрон, нанесены іх непаўналетнімі дзецьмі на працягу трох гадоў пасля пазбаўлення бацькоўскіх правоў, калі паводзіны дзіцяці, якія выклікалі нанясенне ўрону, з'явіліся вынікам нядбайнага ажыццяўлення бацькоўскіх абавязкаў (арт. 944 ГК).

Далучэнне бацькамі дзяцей да ўжывання спіртных напояў — гэта вынік зламыснага невыканання сваіх абавязкаў. Найбольш часта падобнае назіраецца ў сем'ях, дзе бацькі п'юць. Англійскі ўрач XIX стагоддзя Сміт сцвярджаў: "Калі чалавек, які моцна п'е, нараджае на свет псіхапатаў, то чалавек, які п'е ў меру, дае патомства неўрапатаў".

Так, бацькі, вінаватыя ў давядзенні дзіцяці да стану ап'янення (калі гэта не мае прыкмет злачынства), падвяргаюцца штрафу ў памеры ад 5 да 10 мінімальных заработных плат (арт. 160 КоАП). Пры сістэматычным ўцягванні непаўналетняга ў п'янства наступае крымінальная адказнасць бацькоў у выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 5 гадоў.

Для спынення і выкаранення асабліва цяжкіх парушэнняў бацькамі абавязкаў па выхаванні дзяцей устаноўлена крымінальная адказнасць.

Паводле Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, прадугледжана адказнасць бацькоў за давядзенне дзіцяці да самазабойства або замаху на яго шляхам жорсткага абыходжання, сістэматычнага прыніжэння яго асабістай годнасці з боку асобы, ад якой пацярпелы знаходзіцца ў матэрыяльнай або іншай залежнасці. Закон у дадзеным выпадку пад іншай залежнасцю разумее і родасныя сувязі паміж бацькамі і дзецьмі. Пакаранне — пазбаўленне волі на тэрмін да 5 гадоў.

Учыненне бацькамі ў адносінах да дзяцей пабояў і катаванняў утварае асобныя злачынствы. Пабоі — неаднаразовае нанясенне дзецям удараў, якія прычыняюць фізічны боль. Катаванне — гэта сістэматычнае нанясенне пабояў або іншыя віды фізічнага гвалту з мэтай прычынення цяжкіх мучэнняў дзіцяці, а таксама асабліва жорсткага болю. Пакаранне прадугледжвае да 3 гадоў пазбаўлення волі. У выпадках наступлення ў выніку катавання такіх наступстваў, як наўмыснае менш цяжкае або цяжкае цялеснае пашкоджанне, вінаватыя прыгаворваецца судом да пазбаўлення волі на тэрмін ад 3 да 8 гадоў. Калі ж гэта выклікала смерць дзіцяці або наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў і мела характар катавання, то прымяняецца пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 15 гадоў. Уцягванне непаўналетніх у злачынную дзейнасць караецца пазбаўленнем волі да 8 гадоў. Падштурхоўванне непаўналетніх да антыграмадскіх паводзін — сістэматычнага ўжывання спіртных напояў, немедыцынскага ўжыванне моцных або іншых дурманлівых рэчываў, да прастытуцыі, бадзяжніцтва або жабравання, да ўчынення дзеянняў, звязаных з вырабам матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару — караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 5 гадоў.

Бацькі-наркаманы, якія падахвочваюць сваіх непаўналетніх дзяцей да ўжывання наркатычных сродкаў, караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін да 10 гадоў.

Такое нагадванне бацькоўскіх абавязкаў дапаможа ім па-іншаму зірнуць на сваю адказнасць перад дзяржавай за выхаванне дзіцяці.

**Р.КЯДЗЯРАВА,**
**метадыст упраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.**

# Кнігі, якія паступілі ў Рэспубліканскую навукова-педагагічную бібліятэку

**574089, 574090 Организация туристической, краеведческой и экскурсионной работы в школе: Метод. рекомендации для педагогов шк. по орг. турист., краев. и экскурс. работы с учащимися/ Сост. Г.Н.Волкова, Н.П.Герасименко: Респ. центр дет.-юнош. туризма и экскурсий М-ва образования РБ. - Мн., 2000. - 50 с.**

В издании рассматриваются особенности туристско-краеведческой работы с учащимися начальных классов. Даются рекомендации по подготовке и проведению туристского похода, слетов, соревнований и экскурсий.

**574884/д Панфилова М.А. Игротерапия: Тесты и коррекц. игры: Практ. пособие для психологов, педагогов и родителей/ М.А.Панфилова. - М.: "Изд-во Гном и Д", 2000. - 156 с. (В помощь психологу).**

Дается подробное описание методик для дигностики межличностных и внутриличностных конфликтов, реальных психологических возможностей дошкольника и младшего школьника. Предлагаются планы игровой терапии, описываются терапевтические и развивающие игры.

**574881/д Петров В.М. Осенние праздники, игры и забавы для детей/ В.М.Петров, Г.Н.Гришина, Л.Д.Короткова. - М.: ТЦ "Сфера", 2000. - 128 с.**

В книге представлены разработки русских народных праздников и развлечений для детей старшего дошкольного и младшего школьного возраста.

**574901, 574902 Планирование воспитательной работы в классе: Метод. прособие/ Авт. -сост.: Е.Н.Степанов и др.; Под ред. Е.Н.Степанова. - М.: ТЦ "Сфера", 2001. - 128 с. - Библиогр.: с. 127.**

Пособие знакомит с традиционными и новыми подходами к планированию воспитательной работы в классе, раскрывает принципы и технологию составления плана классного руководителя. Предлагает варианты оформления планов воспитательной деятельности с учащимися.

**571886 Плотнікаў Б.А. Фанетыка і марфалогія беларускай мовы: Вучэб. дапам./ Б.А.Плотнікаў; Акад. кіравання пры Прэзідэнце РБ. - Мн., 2000. - 116 с. - Библиогр.: с. 105-114.**

У дапаможніку разглядаюцца асноўныя тэмы, пытанні, праблемы фанетыкі, фаналогіі, марфалогіі беларускай мовы. Праца ілюструецца неабходнымі прыкладамі, схемамі, табліцамі, спасылкамі на розныя крыніцы, якія можна выкарыстаць для больш глыбокага вывучэння беларускай мовы.

**573152 Процко Т.А. Психолого-педагогическое обследование учащихся младших классов вспомогательной школы: Учеб.-метод. пособие/ Т.А.Процко; Бел. гос. пед. ун-т. - Мн.: 2000. - 103 с.**

Пособие посвящено психологическому обследованию познавательной сферы психики и деятельности, изучению готовности младших умственно отсталых школьников к обучению чтению, письму и счету.

**574813, 574814 Ромашкова Е.И. День рождения в семье и школе: Модели празднич. досуга/ Е.И.Ромашкова. - М.: ТЦ "Сфера", 2001. - 96 с. - (Вместе с детьми).**

В предлагаемом издании представлены разработки игровых форм праздничного досуга. Предлагаются нетрадиционные модели проведения Дня рождения в семье, в школе и в загородном лагере.

**573414 Современные технологии воспитания/ Авт. - сост. И.Л.Соломатина. - Мн.: Экоперспектива, 2000. - 24 с.**

Дан обзор категорий педагогических технологий. Раскрыто содержание педагогических операционных воздействий на ребенка в контексте взаимодействия его с окружающим миром.

**574864/д Фриш Г.Л. Устав школы: Метод. рекомендации для разраб. устава общеобразоват. учреждения/ Г.Л.Фриш. - 2-е изд., испр. и доп. - М.: УЦ "Перспектива", 2000. - 72 с. - (Б-ка работника шк. "Шпаргалка" для директора).**

Вниманию руководителей общеобразовательных учреждений предлагается достаточно полная "основа" Устава общеобразовательного учреждения. В предлагаемый проект Устава внесены примерные Положения "О получении образования в семье", "Об экстернате" и др.

**573632 Харитонова Е.А. Развитие фразовой речи в процессе сюжетно-ролевой игры у детей с общим недоразвитием речи: Метод. рекомендации/ Е.А.Харитонова; Витеб. гос. ун-т. - Витебск: ВГУ, 2000. - 29 с. - Библиогр.: с.27-29.**

В коррекционной дошкольной педагогике игре отводится большая роль в овладении детьми всех сторон языка. Автор рассматривает создание педагогических условий для формирования у аномальных детей сюжетно-ролевой игры, основные принципы коррекционно-педагогической работы, методику развития фразовой речи.

**573604 Хацкевич Р.П.Математика для дошкольного и младшего школьного возраста: Метод. пособие для учителей и родителей/ Р.П.Хацкевич. - М.: АСТ, 2000. - 523 с.: ил. - Библиогр.: с. 510-513.**

В книге-пособии приводятся теоретические и практичекие методы обучения, способствующие развитию мыслительной активности учащихся, совершенствованию полученных умений и навыков, формированию творческих способностей у детей, развитию внимания, памяти, речи.

**574878/д Хуторской А.В. Развитие одаренности школьников: Методика продуктив. обучения: Пособие для учителя/ А.В.Хуторской, - М.: Гуманит. изд. центр "Владос", 2000. - 319 с. - (Пед. мастерская).**

В книге раскрывается методика эвристического обучения, позволяющая ученику создавать свой личный мир знаний и опыта. Она поможет сориентироваться в целостной системе эвристического обучения, обрести начальный методический инструментарий и применить его в своей педагогической практике.

**574843, 574844 Шишов С.Е., Кальней В.А. Школа: мониторинг качества образования/ С.Е.Шишов, В.А.Кальней. - 3-е изд., испр. и доп. - М.: Пед. о-во России, 2000. - 316 с. - (Проф. культура педагога). - Библиогр.: с. 306-314.**

Издание знакомит с качеством образования в управленческом аспекте. В ней представлены конкретные материалы мониторинга качества образования на разных образовательно-управленческих уровнях. Даны методические рекомендации по инспектированию и самоанализу школы.

**573101 Шульга Н.И. Изучение "Технологии обработки материалов" и "Технологии хозяйствования" в 6-7 классах: Пособие для учителей эксперим. шк./ Н.И.Шульга, М.Н.Шумский, В.И.Ревуцкий; Нац. ин-т образования Респ. Беларусь. - Мн., 2000. - 42 с.**

В пособии рассматриваются вопросы организации и проведения занятий с учащимися 6-7 классов по предмету "Технология". В нем отражены особенности програмного содержания модулей "Технология обработки металлов и пластмасс" и "Технология хозяйствования".

Скажу добрае слова

# Як я быў настаўнікам

***Першага верасня — вялікае свята не толькі ў дзяцей, якія ўпершыню пераступаюць парог школы, з якой пачынаецца іх новае жыццё, новы крок у краіну ведаў, але і для тых, хто ўпершыню пераступае гэты парог у якасці настаўніка. Для мяне гэтае адбылося першага верасня 1946 года, калі я перасігнуў праз парог звычайнай сялянскай хаты, у якой месцілася Харашанская пачатковая школа былога Плешчаніцкага раёна, у якасці настаўніка (было мне тады 18 гадоў). І цяпер, ужо ў сталым узросце, я не без хвалявання ўспамінаю гэты дзень, дзень майго першага кроку ў вялікае жыццё, і адзначаю яго як вялікае свята.***

Але спачатку — пра тое, як я стаў настаўнікам.

Да вайны я закончыў пяць класаў Горнаўскай школы Плешчаніцкага раёна. Далей былі цяжкія, пакутлівыя дні фашысцкай акупацыі. Пасля вызвалення ў 1944 годзе пайшоў працаваць у калгас. Так атрымалася, што мне ў 16 гадоў давялося пракладаць першую баразну на палетках адноўленага калгаса ў якасці аратага. Цяжкі гэта быў час. Голад і галеча. Нацягаўшыся за дзень за плугам, прыходзіў дамоў і клаўся спаць не паеўшы. І ад голаду ды крыўды плакаў. З гэтым і засынаў. А назаўтра цётка Ганна (маці маю Вольгу Мартынаўну за дзесяць дзён да вызвалення забілі карнікі ў лесе, дзе мы хаваліся ад немцаў падчас блакады) ладзіла нейкае снеданне і мы з бацькам ішлі на работу ў калгас, зноў за плуг.

У 1945 годзе пайшоў вучыцца ў шосты клас. Школы ў нашай вёсцы не было (яе спалілі немцы). Таму даводзілася штодзень хадзіць у іншую вёску за 5 кіламетраў. Закончыў сёмы клас у 1946 годзе. Мне і майму сябру Алесю Левановічу як тым, хто здаў экзамены на "выдатна", Плешчаніцкі РАНА прапанаваў паступіць на вучобу ў Барысаўскае педвучылішча на завочнае аддзяленне. Здаўшы ўступныя экзамены і праслухаўшы ўстаноўчую сесію, вярнуліся дамоў. У РАНА нас прызначылі на працу настаўнікамі пачатковай школы. Мяне накіравалі ў Харашанскую школу ў суседнюю вёску. Так я стаў настаўнікам.

Ці трэба гаварыць, з якім хваляваннем я ішоў у школу 1-га верасня. Але па-бацькоўску сустрэў мяне загадчык школы Васіль Антонавіч Сівец, і адразу на душы стала неяк спакайней. Васіль Антонавіч прадставіў мяне маім вучням, даручыўшы першы і трэці класы. Вучняў было многа, больш за 40, прытым некаторыя, што прыйшлі ў трэці клас, пасляваенныя падросткі, былі ці не вышэй за настаўніка ростам.

Пачаліся мае будні. Спачатку давялося працаваць у дзве змены. Кожны дзень, правёўшы заняткі, ішоў дамоў, у сваю вёску, што за 5 кіламетраў. Праверыўшы сшыткі вучняў, напісаўшы план урокаў на заўтра, позна клаўся спаць — бывала, не павячэраўшы. А назаўтра — зноў у школу.

Спачатку працавалі ўдваіх з загадчыкам школы. Ён вёў 2-і і 4-ы класы, я — 1-ы і 3-і. Цяпер я з удзячнасцю ўспамінаю Васіля Антонавіча Сіўца. Ён ужо меў педагагічную адукацыю, і таму яго парады, часам тактоўныя заўвагі, былі для мяне навукай, а яго бацькоўскія клопаты цяжка пераацаніць. Пасля таго, як прыслалі яшчэ двух настаўнікаў, стала лягчэй. Пачаў працаваць у адну змену — і ў мяне заставаўся час, каб хоць бы адзін раз на тыдзень схадзіць у суседнюю вёску, дзе быў настаўнікам мой старэйшы брат, былы партызан Іван Антонавіч, які адзін вучыў дзяцей усіх чатырох класаў. Ён да вайны закончыў педагагічнае вучылішча, меў адпаведную педагагічную адукацыю і невялікі вопыт (два гады) настаўніцтва. Я сядаў за апошнюю парту і ўважліва слухаў, як брат вёў заняткі. А потым, ужо позна ўвечары, вяртаўся дадому ў сваю вёску Горна. Ісці трэба было больш трох кіламетраў, праз цёмны і страшны яловы лес. Страшны таму, што ў гэты час у нашым раёне ваўкі часта нападалі на людзей. Казалі, быццам гэта былі аўчаркі, якімі немцы цкавалі людзей. Усяго за лета 1946 — 1947 гг. у нашым раёне было 36 нападаў ваўкоў на людзей. У некаторых выпадках яны заканчваліся трагічна — некалькі дзяцей наогул не знайшліся. Таму і страшна было ісці ноччу праз лес, хаця ў мяне і была зброя — недзе бацька здабыў кавалерыйскую шашку, я яе навастрыў і выкарыстоўваў у небяспечных выпадках. З гэтай нагоды прыпамінаецца такі эпізод: пасля заканчэння вучэбнага года, адпраўляючы сваіх вучняў на летнія канікулы, я даў ім заданне напісаць, як правялі лета, што асабліва цікавага адбылося за гэты час. Маё заданне-просьбу дзеці выканалі добрасумленна. Кожны прынёс сваю "справаздачу". Многа было цікавага — о, гэтая дзіцячая непасрэднасць і шчырасць! (Увесь час шкадую, што не захаваў тыя дзіцячыя творы.) Асабліва крануў сэрца аповед вучня першага класа з вёскі Тараканаўка (цяпер яна называецца Салаўёўка) Колі Калясені. Ён напісаў, як яго на ўскрайку лесу, у ягадах, схапіў воўк, як страшна было, калі воўк цягнуў яго ў лес. Як яго выратавалі вяскоўцы, што касілі сена на лузе. Вельмі цікава і таленавіта напісаў хлопчык пра гэтае здарэнне з ім. І цяпер шкадую, чаму я не ўзяў гэты аповед хлопчыка. На жаль, дэталяў цяпер прыпомніць не магу, але вельмі цікава і таленавіта, на мой погляд, напісаў Коля. Я яго, як пачаліся заняткі, пахваліў пры ўсіх вучнях, паставіў "пяцёрку" і пажадаў пісаць і надалей. Не ведаю, дзе цяпер гэты юны літаратар, які напаткаў яго лёс, але што ён вырас добрым чалавекам, упэўнены.

Успамінаецца і яшчэ адзін эпізод з маёй педагагічнай дзейнасці — маё першае выпрабаванне на гэтай ніве. Неяк, у сярэдзіне навучальнага года, нашу школу наведалі супрацоўнікі Плешчаніцкага РАНА з праверкай. Да мяне на ўрок матэматыкі прыйшла інспектар Маргарыта Рыгораўна Апелінская. Я так хваляваўся, што хацеў падагнаць гадзіннік, каб хутчэй закончыўся ўрок. Дзякуй Богу, гэтага глупства я не зрабіў, але чакаў, што падчас падвядзення вынікаў праверкі мне дастанецца на "арэхі". У хваляванні чакаў. І вось слова ўзяла Маргарыта Рыгораўна. І што я чую! Яна пачала мяне хваліць. Цяжка перадаць словамі стан маёй душы ў гэты час. Паверце, я адчуў, нібыта ў мяне на спіне, пад лапаткамі пачалі расці крылы. На гэтых крылах я і трымаўся на працягу трох гадоў працы ў школе, пакуль не настаў час пайсці на службу ў войска.

Я часта з удзячнасцю ўспамінаю Маргарыту Рыгораўну. Калі б не яе педагагічны такт, калі б яна ў той час раскрытыкавала мяне, магло б стацца, што на гэтым мая педагагічная кар'ера і закончылася б. І яшчэ адзін раз я адчуў, як у мяне растуць крылы. Гэта было на жнівеньскай настаўніцкай канферэнцыі, калі ад загадчыка РАНА я пачуў сваё прозвішча ў ліку лепшых настаўнікаў. І я жадаю ўсім маладым настаўнікам, каб падобнае пачуццё ў іх было паўсядзённым, бо без крылаў птушкі не лётаюць.

Напрыканцы маёй "споведзі" не магу не нагадаць пра адзін шчаслівы дзень. Гэта было ў 1947 годзе, калі мне выпаў гонар стаць удзельнікам Рэспубліканскага злёту маладых настаўнікаў у Мінску. Шмат цікавых уражанняў было ў час злёту. Але пра адно не магу забыцца і зараз. Для нас, удзельнікаў злёту, была наладжана сустрэча з беларускімі пісьменнікамі. Сустрэча адбывалася ў тэатры Янкі Купалы. Вёў сустрэчу Якуб Колас, прысутнічалі Максім Танк, Эдзі Агняцвет, Мікола Аўрамчык, Алесь Кучар, які і выступіў з дакладам — пра беларускую літаратуру. Пасля таго, як нам прапанавалі задаваць пытанні, а іх было шмат, была і запіска-зварот адной настаўніцы да Якуба Коласа, каб ён расказаў што-небудзь пра любоў. Якуб Колас, прачытаўшы запіску, засмяяўся і кажа: "Мне неяк, у маім узросце, не выпадае цікава адказаць на гэтую просьбу. Вось тут прысутнічаюць маладыя паэты Максім Танк і Эдзі Агняцвет. Няхай яны раскажуць, у іх, думаю, гэта атрымаецца лепш". Першым пачаў чытаць вершы Максім Танк, потым Эдзі Агняцвет, Мікола Аўрамчык. Мы ўпершыню ўбачылі і пачулі жывыя галасы знакамітых пісьменнікаў. Радасці нашай не было мяжы — і яна раз-пораз выплёсквалася ў шчырых і гучных апладысментах. На ўсё жыццё нам усім запомнілася гэтая сустрэча. Што да мяне, дык я ў той час не мог і падумаць, што праз колькі гадоў пашчасціць працаваць у Саюзе пісьменнікаў пад кіраўніцтвам Яўгена Іванавіча (Максіма Танка) у якасці дырэктара літаратурнага фонду. На жаль, там, шэсць гадоў таму, давялося праводзіць Яўгена Іванавіча ў апошнюю дарогу.

Вось такія ўспаміны напярэдадні важнай падзеі — з'езда настаўнікаў Беларусі. Карыстаючыся нагодай, шчыра віншую ўсіх настаўнікаў з гэтай вельмі важнай вяхой у жыцці кожнага і выказваю самыя найлепшыя пажаданні поспехаў у нялёгкай, але пачэснай і высакароднай працы сейбіта ведаў сярод нашых дзяцей.

З асаблівымі пачуццямі выказваю мае найлепшыя пажаданні маладым настаўнікам, якія, як і я ў 1946 годзе, у першыню пераступаюць у гэтым годзе парог школы. Добрай вам дарогі ў новае жыццё!

**Васіль ВІЛЬТОЎСКІ,**
**былы настаўнік пачатковай школы 1946 — 1949 гадоў.**

# На беразе Акі

***Сказана: "Прыгажосць выратуе свет". Дзяўчынкі і хлопчыкі, якія з'ехаліся ў міжнародны летнік "Лазурный" (Ніжні Ноўгарад, Расія) палічылі, што і сяброўства ратуе яго.***

***Пад дэвізам "Захаваем дружбу — выратуем свет" тут і адбываўся злёт з 15 краін, у тым ліку і з Беларусі.***

Недалёка ад старажытнага Мурама, на беразе Акі, летнік ладзіўся восьмы раз і з'явіўся чарговым этапам у рэалізацыі праекта міжнароднага маладзёжнага супрацоўніцтва "Будуем новыя масты", стаўшы часткаю міжнароднай сеткі маладзёжных летнікаў, якія дзейнічаюць ад Германіі да ЗША. На фоне зямнога шара стары добры голуб — веснік міру — яго сімвал. Усёй грамадой дзеці на асфальце малявалі карту свету.

Шмат зрабіў каардынатар злёту — супрацоўнік Дэпартамента навукі і адукацыі Ніжняга Ноўгарада Дзмітрый Мядзведзеў. У праграме былі Дні здароўя, творчасці, спорту і любові. Акрамя маскарадаў і розных забаў ладзіліся пазнавальныя семінары, так званыя ворк-шопы (майстэрні), прысвечаныя пяці тэмам: перакананні, адрозненні і падобства народаў, руская культура, мовы і адносіны, работа ў камандзе (трэнінг даверу) і газета "Моладзь за мір, сяброўства і здароўе".

Расійскім "Артэкам" называюць міжнародны летнік "Лазурный". Ён валодае багатай і разнастайнай спартыўна-аздараўленчай базай і цудоўна абсталяваны. Тэнісныя корты, валейбольныя пляцоўкі, басейн, трэнажорная зала былі ў распараджэнні дзяцей.

Свой сцяг сяброўства і юнацтва праз чатыры такія летнікі пранёс і Беларускі саюз моладзі. Яго каманада ў складзе дзевяці чалавек (Дзмітрый Бязлюдаў, Ігар Палішчук, Максім Андрэеў, Андрэй і Антон Гамалінскія, Аляксей Купрыкаў, Ізабела Шаманава, Алена Бялова, Кацярына Балідская) прадстаўляла рэспубліку сёлета.

**Пётр ЯРАВЫ.**

Лета, ах лета!

# У спартанскіх умовах

***Ёсць на Палессі ў Пінскім раёне вёска Парэчча — былое ўладанне прамыслоўцаў Скірмунтаў. Ад маёнтка сёння практычна нічога не засталося, акрамя будынку фабрыкі, у якім цяпер размяшчаецца крухмальны завод, вялікага парку з мноствам экзатычных і рэдкіх раслін ды месца гібелі саміх былых гаспадароў. Менавіта тут ужо не першы год Беларускі саюз моладзі арганізуе валанцёрскі летнік "Старажытны парк".***

Як такога "Старажытнага парку" сёлета не атрымалася. Прычына вельмі банальная — клешчавы энцэфаліт у парэчанскім парку. Але выйсце было знойдзена.

Трэба прызнаць, што да апошняга часу вельмі мала ўвагі ўдзялялася гісторыі і наступствам войнаў, якія адбываліся да Вялікай Айчыннай, у першую чаргу пахаванням таго перыяду. Менавіта на гэта і была накіравана праца валанцёраў у в.Парэчча. У першую сусветную вайну ў гэтым раёне праходзіла лінія фронту, ішлі жорскія баі.

Летнік размясціўся ў базавай школе — той самай, дзе ў свой час вучылася вядомая беларуская паэтка Яўгенія Янішчыц і дзе цяпер знаходзіцца яе музей. У летнік з'ехаліся падлеткі з усёй Беларусі. Жыць ім давялося ва ўмовах больш падобных да спартанскіх: спаць на падлозе на матрацах без падушак (хоць і з пасцельнай бялізнай), туалет на двары. Хочаш памыцца — або вясковая лазня, або рака Ясельда ў кіламетры ад школы. З усіх выгод — толькі умывальнік у школе. Сталоўка і наогул — у 4 кіламетрах у суседняй вёсцы Табулкі, куды валанцёры кожны дзень на снеданне і абед хадзілі пешшу (на вячэру выдаваўся сухі паёк). Кіраўнік летніка Сяргей Кацко сцвярджае, што такое жыццё юнакам і дзяўчатам — толькі на карысць, ды і адносіны паміж валанцёрамі і педкалектывам — лепш не бывае. Нават імёны валанцёры далі сваім начальнікам: мама, тата і дзядуля. Звычайная вялікая сям'я.

Раніцай — праца, днём — адпачынак на рэчцы або на палескай прыродзе, вечарам — культурная праграма і дыскатэка, а ноччу — каму сон, а каму — начны абход з пастай або вясковай смятанай. Такі кароткі распарадак дня "старажытнапаркаўскіх" валанцёраў. І дарэмна нехта спрабаваў прыхаваць пасля экскурсій у Пінск і Белавежскую пушчу бутэлечку піва — сухі закон тут для ўсёй сям'і.

Калі я прыехаў у летнік, мяне практычна адразу ж павялі паказваць усё тое, што падлеткі зрабілі за змену: шэсць расчышчаных радоў надмагільных пліт у атачэнні магіл сельскіх жыхароў у зарослым полі. Тут пахаваны салдаты трох, а можа, і чатырох нацыянальнасцей. Вакол магіл у густой высокай траве без цяжкасці можна было ўбачыць месцы, дзе валанцёрам даводзілася выкопваць з зямлі надмагільныя пліты. Цяжка зразумець, чаму так атрымалася, што частка пліт пайшла ў падмуркі дамоў.

На плітах на польскай мове пазначаны імёны, назвы армій, дата смерці і дата перапахавання — пераважна 1928 год. Некаторыя магілы — з надпісам "Невядомы салдат". Нямецкія, аўстрыйскія і польскія салдаты — усіх іх аб'яднала смерць і зямля, у якой яны знайшлі свой апошні прытулак. Непадалёк сярод сельскіх магіл цудам уцалела пахаванне нямецкіх салдат з мемарыяльным знакам, усталяваным, хутчэй за ўсё, у апошнюю вайну. На металічнай пласціне ледзь можна разабраць надпіс Unseren heroen — Нашым героям.

Паводле падлікаў, была знойдзена, выкапана, добраўпарадкавана і ўстаноўлена на расчышчанае месца 151 надмагільная пліта.

**Дзмітрый САВЕЛЬЕЎ.**

# Сустрэча праз трыццаць гадоў

ПАМЯТНЫМ будзе гэтае лета для выпускнікоў 1971 года Мазырскага педагагічнага інстытута. Тое, што прыйшлося ўбачыць і адчуць, нельга перадаць словамі. Мінула трыццаць гадоў з дня расстання! Першыя ўражанні: не пазнаў, хто гэта? Далей воклічы — пароль! — да тых, хто падыходзіў. Гэта значыць, назаві прозвішча — інакш не згадаем. Пасля — абдымкі, пацалункі, успаміны, фотаздымкі на памяць. Першае хваляванне спала, і тады — калектыўнае складанне жыццёвага рамана ў сценах Інстытута. На сустрэчы прагучалі цудоўныя вершы:

Старый тополь
вслед вздохнул,
Старый клен слезу смахнул.
Постаревшим, поседевшим,
ВУЗ нам двери распахнул.
Он спросил нас, как живете?
Как в семье и на работе?
Много ль помните наук?
У кого родился внук?

Распавядалі пра свой настаўніцкі лёс муж і жонка Гайкевічы, Сцяпан Васільевіч і Вера Пятроўна, якія працуюць у Калінкавіцкім аддзеле адукацыі, Мікалай Фіцнер — настаўнік сярэдняй школы № 1 г.Жыткавічы, Уладзімір Бандзюк, які навучае гімназістаў у Бабруйску, Т.І.Цімашэнка і А.А.Карпенка, якія настаўнічаюць у Гомелі, рэчыцкая настаўніца Т.А.Носарава, настаўнікі з Мазыра В.А.Вішнеўская, Л.І.Чэкан, З.М.Герштэйн і іншыя. Час раскідаў усіх не толькі па Гомельшчыне, але і за межамі Беларусі. Цікава было слухаць кожнага, бо іх лёс — гэта часцінка лёсу перадавой часткі нашага народа — настаўніцтва. Слухаючы сваіх былых аднакурснікаў, падумалася: сёння ж на такіх трымаецца школа, бо ўсе, як адзін, прысвяцілі сваё жыццё дзецям. Гаварылі былыя аднакурснікі з захапленнем пра сваю працу — і ні ценю шкадавання аб выбраным шляху, поўнае разуменне складанасці часу.

Выкладчыкі Інстытута Любоў Васільеўна Жураўская і Уладзімір Дзмітрыевіч Куляшоў, якія ў свой час не толькі выкладалі беларускую мову і музыку, але былі і куратарамі груп, падзяліліся ўспамінамі, уражаннямі ад расказаў сваіх былых студэнтаў. Любоў Васільеўна сталела разам са сваімі першымі студэнтамі. Зараз яна кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай мовы, намеснік дэкана філалагічнага факультэта. Такой сустрэчы Інстытут не памятае за ўсю сваю гісторыю.

На жаль, многія з выпускнікоў 1971 года не прысутнічалі на гэтым спатканні са сваёй маладосцю. Запрасілі ўсіх, каго змаглі адшукаць. Звяртаюся да вас, мае былыя аднакурснікі, адгукніцеся, хто жадае перажыць шчаслівыя імгненні сустрэчы. Час ляціць няўмольна.

**Вера ГАЙКЕВІЧ,**
**метадыст Калінкавіцкага аддзела адукацыі.**

Кнігі

# Па праекту "Экалоджык"

***Зрабіць для школьнікаў экалогію больш "жывой" і захапляльнай заклікаы зборнік "Экалоджык", які выйшаў у свет па ініцыятыве беларускай маладзёжнай грамадскай суполкі "Розныя — роўныя".***

Кніга аб'ёмам 70 старонак і накладам 300 асобнікаў выдадзена пры падтрымцы фонду ISAR у рамках праграмы "Зберажы росы белыя". У зборнік уключаны практыкаванні, ролевыя гульні і іншыя інтэрактыўныя методыкі выкладання экалогіі ў школе. У выданні прадстаўлены вопыт арганізацыі "Захаваем чысціню Швецыі". Гэты метадычны дапаможнік плануецца бясплатна распаўсюдзіць сярод выкладчыкаў экалогіі, прадстаўнікоў экалагічных грамадскіх арганізацый. Некалькі экзэмпляраў будуць перададзены ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Выданне зборніка з'яўляецца часткай праектаў "Экалоджык" і "ЭкалоджыкІнформ" арганізацыі "Розныя — роўныя". Гэтая праграма праводзіцца з лютага бягучага года пры падтрымцы фонду ISAR. У рамках яе настаўнікі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і дзяржаўных структур знаёмяцца са спецыяльнай шведскай методыкай, распрацаванай для выкладання экалогіі дзецям.

Некалькі ўдзельнікаў праекта "Экалоджык" ужо змаглі скарыстацца атрыманымі ведамі. Сёлета яны правялі ў сталічным мікрараёне Уручча-5 экалагічную акцыю "Чысты лес". У рамках гэтай праграмы вучні 197-й мінскай школы праслухалі лекцыі, прынялі ўдзел у конкурсе малюнкаў, прыбралі смецце ў лесапарку, размешчаным у іхнім мікрараёне.

Падлеткі пераканаліся, наколькі цікавая экалогія, асабліва калі яна выкладаецца не "сухой" акадэмічнай мовай, а пазнаецца ў інтэрактыўных гульнях.

**Сяргей КУЖОЎНІК.**

Партрэт сельскай школы

# Адна сям'я

Сярэднюю школа ў вёсцы Данілавічы Дзяржынскага раёна наведваюць каля сотні вучняў. Старэйшыя класы малакольксныя. Ды і ў астатніх няма і па 20 вучняў. Але ёсць магчымасць бачыць кожнае дзіця на ўроку, прыйсці яму на дапамогу. А праблем усё роўна дастаткова. Як і ўсюды, ёсць "цяжкія" бацькі, таму цяжка і дзецям, і настаўнікам. Шмат клопатаў у сацыяльнага педагога і класных кіраўнікоў, дырэкцыі школы — каб не адбілася ад рук ніводнае дзіця, чыё дзяцінства азмрочана хатнім ліхам ці хваробай.

Вось адзін з бацькоў, згледзеўшы настаўніц з завучам Ганнай Аляксееўнай Балашовай, што наведвалі вучняў, літаральна на карачках адпоўз і схаваўся... І п'янаму было сорамна, відаць. Але ж які з яго выхавацель для ўласных дзяцей? І такая бяда — не ў адной сям'і.

Таму, як ніколі, школа павінна быць "Домам Радасці", каб кожнае дзіця адчула сябе шчаслівым хоць у школе, калі не бачыць шчасця дома.

Вось у тым і незвычайнасць гэтай звычайнай сельскай школы, што настаўніцкі калектыў дружна стварае, іменна стварае, для дзяцей радасць.

А найпершы клопат педагагічнага калектыву — здароўе дзяцей. Бо толькі здаровае дзіця шчаслівае па-сапраўднаму. Усе дзеці харчуюцца ў школьнай сталовай бясплатна. А яшчэ школе пашчасціла на спецыяліста-кухара. Марына Львоўна Сушкевіч і смачна гатуе, і па-мацярынску хораша частуе дзяцей прысмакамі. Усё, што вырасла на прышкольным участку (а ўраджай быў добры), было сабрана. Буракоў ды капусты, морквы і агуркоў хапала на салаты, якія па-майстэрску гатуе Марына Львоўна. Яшчэ яна спякла цудоўныя пірагі і частавала імі ўсіх дзяцей і настаўнікаў на адным са школьных святаў. Прыгожае атрымалася свята!

Па-першае, настаўнікамі сталі вучні, бо вельмі цікава і карысна пабыць у ролі настаўніка вучням-старшакласнікам, а малодшым — ім пазайздросціць па-добраму.

Па-другое, настаўнікаў павіншавалі і ласкава папрасілі адпачыць, а самі замянілі іх дастойна ўсюды, пра што сведчылі ўсхваляваныя шчаслiўцы пасля праведзеных урокаў.

Па-трэцяе, спартыўная частка свята атрымалася на "5", калі ў баскетбол сталі гуляць настаўніцкая каманда з вучнёўскай. Вось гэта быў накал барацьбы і эмоцый!

Убачылі вучні і маладзенькіх настаўніц, што 1 верасня ўпершыню прыйшлі да іх у класы — Таццяну Віктараўну Дудко і Наталлю Пятроўну Прыстаўка ў якасці баскетбалістак. Здорава? Вядома! Настаўніцы ці настаўніку трэба многае ўмець! Дырэктар школы Уладзімір Мікалаевіч Крываротт сказаў у канцы навучальнага года пра маладых спецыялістаў: "Тэарэтычная падрыхтоўка — што трэба, і стараюцца, і дзяцей любяць. Вопыт набудуць — і выдатныя спецыялісты атрымаюцца". Гэта адносілася да ўсіх маладых, а не толькі да вышэй названых настаўніц.

Толькі як утрымаць гэтых маладых спецыялістаў у сельскай школе? Усе яны на працу ездзілі аж з Дзяржынска на рэйсавым аўтобусе. А ў 15 гадзін патрэбна паспець на аўтобус, каб заехаць дамоў. Узнікае праблема пазакласных заняткаў з вучнямі. Як яе вырашыць? Жылля для маладых спецыялістаў пакуль што няма.

А было б вельмі добра, калі б яркімі сонейкамі засвяціліся таленты маладых у вясковай школе. Такімі, як свеціцца талент Ірыны Уладзіміраўны Рудкоўскай, што стала намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце і столькі цудоўнага робіць разам з дзецьмі! Праца далёка не лёгкая, але ж і яе рабіць трэба. Ды і наогул настаўніцкі хлеб лёгкім не назавеш, але ж дзяцей вучыць і выхоўваць некаму трэба. І ў сельскай школе — таксама.

А дырэктару школы баліць галава, як адрамантаваць дах школы. Цячэ, хоць школа нядаўна пабудавана. Дзе ўзяць грошы на рамонт?

Магчыма, ужо знайшліся, бо дырэктар школы не сядзіць склаўшы рукі, а выйсце шукае.

Першае верасня зноў зазвініць званкамі і дзіцячымі галасамі. І клопат дарослых — каб дзіцячыя галасы былі радасныя, а вочы — шчаслівыя.

**Наталля ВАЙЦЯХОВІЧ,**
**настаўніца-пенсіянерка.**

По краінах і кантынентах

# Двухметровы капітан і сарамлівая мімоза

***Прачытаўшы загаловак, магчыма хтосьці падумае, што гаворка пойдзе пра гэтакае рамантычнае каханне. Якраз зусім не. Мы коратка пазнаёмім вас з афрыканскай краінай Чад, якая калі чым і зацікаўлівае, то не рамантычнымі памкненнямі закаханых, а пякельнымі ўмовамі клімату, у якім даводзіцца выжываць насельніцтву і ўсяму жывому на яе прасторах.***

На гэтай распаленай сонцам зямлі, пазбаўленай вільгаці, уцалелі хіба што невысокія калючыя кустарнікі. Камяністыя ці пясчаныя прасторы пустыні Сахары амаль безжыццёвыя. Зрэдзь на бяскрайнім пясчаным моры з'явіцца караван, а як толькі пройдзе, зноў нібыта ўсё выміраe навокал. Дзённая тэмпература Сахары часта дасягае 45 градусаў.

Гарачы клімат, пустынны ландшафт, аддаленасць ад мора, частыя пясчаныя буры — тыповыя фактары гэтай мясцовасці.

Набліжэнне буры звычайна вызначаюць па паяўленню на небасхіле цёмнай сцяны. Яна даволі імкліва насоўваецца і хутка зацьмявае сонца. Уся пустыня ў момант прыходзіць у рух. Струмені пылу і пяску суцэльным патокам абрушваюцца на зямлю. Пясчаныя буры працягваюцца некалькі гадзін, але не сціхаюць падчас па 2-3 дні.

Некалькі разоў на год здараюцца бурныя, але кароткія навальніцы з ліўнямі, а то і з градам. На жаль, такія навальніцы прыносяць больш шкоды, чым карысці. Яны разбураюць пабудовы, перашкаджаюць апыленню пальмаў, патокі вады вымываюць з глебы мінеральныя солі.

У краіне адчуваецца востры дэфіцыт вады. Чад знаходзіцца ў цэнтры кантынента. Адзіная водная артэрыя краіны — рака Шары, якая ўпадае ў возера Чад. Дарэчы, як возера, так і рака, кішаць рыбай. Шары лічыцца адной з самых рыбных рэк на зямлі. Самая буйная рыба ў ёй, якую называюць капітанам, можа дасягаць двухметровай даўжыні і 80 кілаграмаў вагі. Яна вельмі прыемная на смак. Раён возера выключна багаты дзічынай. Тут водзяцца бегемоты і кракадзілы, на берагах мноства ібісаў, фламінга і пеліканаў.

К поўдню ад возера растуць трапічныя лясы. Значную частку краіны займаюць саваны і паркавыя лясы. У сухі сезон травы ў саване выгараюць, дрэвы скідваюць лісце. Зелень паяўляецца з дажджамі, месцамі сустракаюцца густыя зараснікі сарамлівай мімозы з фіялетавымі кветачкамі. Калі да мімозы дакранаешся, яе лісцікі згортваюцца.

Сустракаюцца баабабы і пальмы дум з раздвоеным у верхняй частцы ствалом.

У саванах водзяцца сланы, насарогі, буйвалы, жырафы, антылопы, львы, леапарды, гепарды, шакалы, гіены. У верхнім цячэнні Шары жывуць малпы, у тым ліку павіяны і калабусы.

У краіне жыве шмат розных афрыканскіх народаў: тубу, хауса, маса, чамба, моба, тама, даго і інш. Яны захавалі надзвычай многа старадаўніх звычаяў і традыцый. Маса, напрыклад, у сваіх хацінах да сцен прымацоўваюць невялікія драўляныя наросты накшталт жаночых грудзей, што па павер'і будзе спрыяць таму, каб у сям'і нараджалася многа дзяцей.

У земляробчага племені сара да гэтага часу захаваліся звычаі ўпрыгожваць сябе шляхам дэфармавання розных частак цела. Так, жанчыны сара ўстаўляюць у вусны драўляныя пласцінкі да 40 сантыметраў у дыяметры і 110 грамаў вагі. Калі жанчыны ідуць гуськом і нясуць на галаве цяжкі груз, яны прыстасоўваюць крокі да рытму раскалыхвання сваіх упрыгажэнняў. Есці і піць пры такіх упрыгажэннях — справа нялёгкая, тым больш што трэнне пласцінак аб дзясны выклікае выпадзенне зубоў.

Гавораць, што гэты жорсткі звычай пайшоў з тых далёкіх часін, калі на афрыканскія вёскі здзяйснялі набегі паляўнічыя за рабамі. Дзеля ўратавання ад рабства мужчыны нявечылі твары сваіх жонак. На жанчын са зняверчанымі тварамі не было попыту на нявольніцкіх рынках. Тыя далёкія часіны даўно адышлі ў мінулае, а звычай захаваўся і дзейнічае да цяперашняга часу.

**Тэкст падрыхтаваў**
**Пятрусь ЮДО.**
**Здымак з уласнага архіва.**

НА ЗДЫМКУ: атэль у сталіцы Рэспублікі Чад Форт-Ламі.

